УДК 821.161.3.09
ББК 83.3(4Беи)
Ч-11

Фундатар — былы артыст Слонімскага народнага тэатра
Мікалай Аляксеевіч Хальпін

Фотаздымкі з архіва аўтара і ДУК «Слонімскі драматычны тэатр»

**Чыгрын, С.**
Ч-11 Слонімскі драматычны тэатр / Сяргей Чыгрын. — Мінск : Кнігазбор, 2020. — 40 с.
ISBN 978-985-7227-39-6.

Выданне прысвечана гісторыі дзяржаўнай установы культуры «Слонімскі драматычны тэатр» з нагоды яе 30-годдзя.

**УДК 821.161.3.09**
**ББК 83.3(4Беи)**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Чыгрын** Сяргей Мікалаевіч

12+

**Слонімскі драматычны тэатр**

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Алена Спрытніч
Набор Сяргея Чыгрына
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Карэктар Алена Спрытніч

Падпісана да друку 27.09.2017. Фармат 60×84/8. Папера афсетная.
Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 4,67. Наклад 99 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 01.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.

**ISBN 978-985-7227-36-6**



# З гісторыі тэатральнага мастацтва Слонімшчыны

## Слонімскі школьны тэатр, XVIII стагоддзе

Першыя звесткі пра тэатральнае жыццё ў Слоніме адносяцца да XVIII стагоддзя, калі існаваў у 1744–1769 гадах слонімскі школьны тэатр пры езуіцкім калегіуме. У рэпертуары тэатра пераважалі тады драмы на рэлігійныя, міфалагічныя і гістарычныя сюжэты. Паказы адбываліся пераважна на лацінскай, зрэдку на польскай мове. Звычайна гэтыя пастаноўкі суправаджаліся алегарычным пралогам, эпілогам, харамі, інтэрмедыямі і найчасцей прымяркоўваліся да пастоў, завяршэння навучальнага года, некаторых свят.

Аўтарамі пастановак былі выкладчыкі калегіума, а ў спектаклях удзельнічалі і выкладчыкі, і навучэнцы. Захаваліся звесткі пра чатыры пастаўленыя ў Слоніме п'есы: масленічная драма «Імгненне няшчаснай вечнасці» Ф. Навадворскага, дыдактычная драма «Кветка з надпісам імёнаў цароў» (абедзве 1744), «Задумы з галавы Палады» (1749), драма «Аляксей» (1769), прымеркаваная да імянін мецэната тэатра гетмана М. К. Агінскага, якая потым была выдадзена асобнай кніжкай на польскай мове.

## Тэатр Міхала Казіміра Агінскага, 1771–1791 гады

Вялікая тэатральная трупа вялікага гетмана літоўскага Міхала Казіміра Агінскага ў Слоніме была заснавана каля 1771 года, а спыніла сваю дзейнасць пасля 1791 года. У тэатры Агінскага працавалі прафесійныя італьянскія, нямецкія, польскія спевакі, мясцовы беларускі хор і балет. Балетная



трупа была падрыхтавана ў слонімскай балетнай школе. Паказы суправаджала слонімская капэла Агінскага.

У 1771–1780-я гады пры тэатры існавала і музычная школа. Рэпертуар тэатра складаўся з балетаў, у тым ліку «Каралеўскі балет», «Балет млынароў», «Дзікі балет» і «Дэзерцір» (апошнія два былі паказаны ў 1790–1791 гадах на гастролях у г. Дубне (Украіна), а таксама з опер італьянскіх кампазітараў Дж. Паізіела, Э. Дуні, А. Грэтры, П. Мансіні, Н. Іамелі, А. Сакіні, П. Гульельмі, К. Глюка, Дж. Таэскі, сярод іх — оперы Агінскага «Зменены філосаф» (1771), «Елісейскія палі» (1788).

Паводле «Інвентара інструментаў і музычных папер», складзенага ў 1801 годзе, збор нот твораў, што выконваліся на розных сцэнах тэатра Агінскага , уключаў 60 опер, 18 балетаў, 3 музычныя камедыі, 253 сімфоніі і больш за 460 іншых музычных твораў (араторыі, арыі, музыка для дывертысментаў, асобных танцаў і інш.). Сярод выканаўцаў дачка «мэтра ігры на клавікордзе» Д. Грабенбаўэра Ева, Г. Давіа, П. Драздоўская, М. Лазарыні і іншыя. Філіялы Слонімскага тэатра Агінскага працавалі ў г. Седльц (Польшча) і мястэчку Целяханы (цяпер Івацэвіцкі раён).



СЛОНІМСКІ ДРАМАТЫЧНЫ тэАтр



**Міхал Казімір Агінскі**

Паміж 1777–1780 гадамі ў Слоніме быў пабудаваны «Дом оперы» (архітэктар Іначэнца Мараіна, разбураны пасля 1804 года), які меў вялікую сцэну, прыстасаваную для паказаў любых барочных спектакляў, опер і балетаў, для выхаду вялікай колькасці спевакоў і статыстаў, для тэатральных баталій коннікаў і водных феерый (частка сцэны затаплялася вадой з канала Агінскага і па ёй плавалі лодкі), для складаных перспектыў і дэкарацый, розных сцэнічных эфектаў. Тэхнічныя магчымасці сцэны дазвалялі паказаць і два фантаны, якія асвятляліся бенгальскімі агнямі (пры тэатры працаваў піратэхнік Ц. Ваксмунт). Дэкарацыі для сцэны стваралі мастак І. Мараіна і тэатральны машыніст Жан Баі (Ян Бой).

Пры тэатры Агінскага дзейнічала і балетная школа. Спачатку сярод вучняў пераважалі дзеці прыдворных музыкантаў, а пазней балетам займаліся і дзеці прыгонных мясцовых сялян. Вучні атрымлівалі пэўную агульную адукацыю. У 1788 годзе чатыры выхаванцы выступалі нават у балеце «Рыбакі» ў Варшаве. Слонімскі балет тэатра Агінскага заўсёды канкурыраваў з каралеўскім тэатрам у Варшаве. Пасля 1791 года тэатр Міхала Казіміра Агінскага ў Слоніме спыніў існаванне.

## Слонімскія драматычныя гурткі, 1941–1944 гады

Падчас нямецкай акупацыі ў Слоніме пры Беларускім Народным доме быў створаны і актыўна працаваў беларускі драматычны гурток, якім кіраваў І. Чуркін. Артысты тэатра ставілі п'есы беларускіх драматургаў, выступалі з рознымі канцэртнымі праграмамі, запрашалі да сябе беларускія калектывы з іншых гарадоў Беларусі. Летам 1942 і 1943 гадоў у Слоніме на гастролях знаходзіўся Мінскі гарадскі тэатр (кіраўнік Пётр Булгак), які на сцэне Беларускага народнага дома паказаў спектаклі «Каварства і каханне» Ф. Шылера, «На Антаколі» Ф. Аляхновіча і «Паўлінку» Я. Купалы. У 1943 годзе выступаў і Баранавіцкі аматарскі тэатр, які паказваў «Пана міністра» Ф. Аляхновіча.

Паэт Сяргей Новік-Пяюн пры Слонімскім краязнаўчым музеі вясной 1942 года таксама стварыў маладзёжны драматычны гурток. Артысты паставілі спектаклі «Мікітаў лапаць» па п'есе Міхася Чарота, «На вёсцы», «Дзядзька Якуб», «Чорт і баба» Фрацішка Аляхновіча і іншыя.

## Слонімскі народны тэатр, 1948–1990 гады

У адзін з лістападаўскіх дзён 1948 года афішы Слоніма паведамілі аб першым спектаклі «Шляхі-дарогі» па п'есе А. Фёдарава толькі што створанага пры раённым Доме культуры тэатральнага калектыву. Кіраўніком калектыву быў тады дэмабілізаваны з арміі 27-гадовы франтавік Аляксандр Бялоў (1921–1985). У Слоніме Аляксандр Бялоў жыў да 1956 года. А пасля пераехаў у Мінск і працаваў акцёрам у Дзяржаўным рускім драматычным тэатры Беларусі. У 1977 годзе яму прысвоілі званне заслужанага артыста Беларусі. Як удзельнік Слонімскага драматычнага гуртка, у 1951 годзе ён быў адзначаны на Рэспубліканскім аглядзе сельскай самадзейнасці за выкананне роляў Курачкіна ў спектаклі «Вяселле з пасагам» па п'есе М. Дзяканава і Швандзі ў спектаклі «Любоў Яравая» па п'есе К. Трэнёва.



**Акцёры Мінскага гарадскога тэатра на гастролях у Слоніме. Лета 1943 г.**

У 1948 годзе ў Слонім прыехаў і вопытны рэжысёр Міхаіл Фрыдман (1894–1975), які скончыў маскоўскую тэатральную студыю «Свабоднае мастацтва» ў 1928 годзе і вандраваў з яўрэйскай акцёрскай трупай па Украіне і Беларусі. Тады, у 1948 годзе, драмгурток атрымаў ад слонімцаў першыя апладысменты. Спектакль меў поспех. Яго паказвалі 32 разы. Ён і замацаваў веру артыстаў і рэжысёра ў свае сілы. Пачалася сур'ёзная, мэтанакіраваная работа на сцэне, якая не спынялася дзесяцігоддзямі. З 1959 года драмгурток носіць званне народнага.

У Слоніме Міхал Фрыдман ажыццявіў пастаноўкі дзясяткаў спектакляў, сярод іх былі і лепшыя — «Перабежчык» А. і П. Тураў, «Сын» К. Турава, «Я хачу дамоў» А. Тур, «Выгнанне блудніцы» І. Шамякіна, «Вяселле з пасагам» М. Дзяканава, «Любоў Яравая» К. Транёва, «У добры час» В. Розава, «Кухарка замужам» А. Сафронава, «Жаніцьба Бялугіна» А. Астроўскага, «Апошнія» М. Горкага, «Нячыстая сіла» Г. Стафанскага, «У бэзавым садзе» Ц. Саладара.

У пачатку лютага 1964 года спектакль «Апошнія» па п'есе Максіма Горкага слонімскія артысты прывезлі ў Мінск. Прэм'ера адбылася ў сталіцы ў Рэспубліканскім тэатры юнага гледача. Паглядзець спектакль прыйшлі старэйшыя майстры беларускай сцэны — Ларыса Александроўская, Канстанцін Саннікаў, Вера Пола, Сцяпан Бірыла і іншыя. Зала тэатра была перапоўнена. Перад пачаткам спектакля перад гледачамі выступіла народная артыстка СССР Ларыса Александроўская, якая шчыра павітала артыстаў са Слоніма, а таксама сказала, што ў спектаклі ролю Соф'і іграе народная артыстка Беларусі Вольга Галіна.

За спектакль «Апошнія» калектыў Слонімскага народнага тэатра і яго рэжысёр Міхаіл Фрыдман, а таксама ар-



**Калектыў Слонімскага народнага тэатра. Сядзіць справа ў другім радзе трэці Міхаіл Фрыдман. 1960-я гг.**

тыстка Вольга Галіна атрымалі падзяку ад Міністэрства культуры БССР.

У 1968 годзе Слонімскі народны тэатр узначаліў рэжысёр Мікалай Варвашэвіч (1934–2001). Гэты чалавек аддаў усе свае сілы, веды, натхненне і жыццё тэатру ў Слоніме. Пры ім народны тэатр у горадзе над Шчарай стаў неад'емнай часткай культурнага жыцця Слонімшчыны. У рэпертуары тэатра сталі з'яўляцца п'есы класікаў беларускай і рускай драматургіі: А. Астроўскага, М. Горкага, Б. Лаўранёва, К. Транёва, В. Розава, Я. Купалы, У. Галубка, В. Дуніна-Марцінкевіча, К. Крапівы, А. Макаёнка і г. д. Калектыў Слонімскага народнага тэатра ў 1975–1977 гадах стаў лаўрэатам Першага Усесаюзнага фестывалю самадзейнай мастацкай творчасці працоўных. На базе народнага тэатра быў створаны Слонімскі эксперыментальны тэатр-студыя.

## Слонімскі драматычны тэатр



**Мікалай Варвашэвіч, заснавальнік Слонімскага драмтэатра**

1 студзеня 1990 года ў Слоніме пачаў дзейнічаць дзяржаўны драматычны тэатр, дырэктарам і рэжысёрам у адной асобе стаў заслужаны дзеяч культуры Беларусі Мікалай Варвашэвіч (1934–2001). М. Варвашэвіч узначальваў тэатр да 2000 года. З 2000 да 2003 года галоўным рэжысёрам тэатра быў Віктар Бутакоў, з 2003 да 2008 года — Віктар Небальсін, а з 2008 года па сённяшні дзень — Васіль Сявец.

За гэты час калектыў тэатра ажыццявіў каля 100 пастановак для дарослых і юных гледачоў. У рэпертуары тэатра пераважаюць спектаклі камедыйнага жанру, пастаўленыя ў традыцыях беларускага народнага тэатра: «Прымакі» Я. Купалы, «Не забыцца і паспець на сябе хамут адзець» Л. Родзевіча, «Лекі ад кахання» і «Каханне з падманам» У. Галубка, «Трыбунал» А. Макаёнка. Ставяцца п'есы сучасных беларускіх драматургаў: «Сабака з залатым зубам» У. Сауліча, «Жаніх па перапісцы» А. Федарэнкі, «Чужыя грошы» У. Бутрамеева, «Тарас на Парнасе» С. Кавалёва, «Спакуса» А. Якімовіча, «Не пакідай мяне» А. Дударава, «Апошні» В. Ткачова, «Нязваны госць» С. Бартохавай. Значнае месца ў рэпертуары тэатра займаюць п'есы класічнай і сучаснай рускай і замежнай драматургіі: «Жаніцьба Бальзамінава» і «На бойкім месцы» А. Астроўскага, «Сямейны партрэт з чужым» С. Лабазёрава, «Гаспадыня гасцініцы» К. Гальдоні, «Непаразуменне» А. Камю, «Жарты Парыжа» К. Манье, «Каханне ў стылі барока» Я. Стэльмаха, «Маю жонку завуць Марыс» Р. Шара, «Свабодны шлюб» Д. Фо, «Курыца» М. Каляды, «Самазабойца» М. Эрдмана і іншыя. Тэатр ставіць шмат спектакляў на рускай і беларускай мовах для юных гледачоў і гастралюе з імі па Беларусі: «Дзень нараджэння» Н. Абрамцавай, «Залатое кураня» У. Арлова, «Новы калабок» П. Васючэнкі, «Мяфа» Н. Палешчанковай, «Малыш і Карлсан» К. Папова, «Зялёны атрад» В. Валжаніна, «Жыла-была Сыраежка» В. Зіміна, «Аднойчы гарачым-гарачым летам» В. Ткачова, «Дзень нараджэння ката Леапольда» А. Хайта, «Чарадзейнае люстэрка» І. Чаркашына, «Зачараваная хатка» В. Ткачова і С. Чыгрына, «Мымраня» У. Афоніна і іншыя. У асноўным калектыў тэатра абслугоўвае раённыя цэнтры і жыхароў вёсак Гродзенскай, Брэсцкай і Мінскай абласцей. На сённяшні дзень у рэпертуары тэатра значацца 18 спектакляў для дзяцей і 15 пастановак для дарослых.

У 2001 і 2017 гадах тэатр прымаў удзел у Рэспубліканскім фестывалі нацыянальнай драматургіі імя В. Дуніна-Марцінкевіча ў Бабруйску. У 2017 годзе калектыў тэатра паказаў спектакль «Тарас на Парнасе» па п'есе Сяргея Кавалёва ў пастаноўцы галоўнага рэжысёра тэатра Васіля Сяўца.

Тэатральныя крытыкі станоўча ацанілі ролю Тараса ў выкананні майстра сцэны тэатра Уладзіміра Навуміка.

На Другім рэспубліканскім фестывалі творчай тэатральнай моладзі «Надзея-2001» роля чорта ў выкананні артысткі тэатра Ірыны Яцук у спектаклі «Камедыя» па п'есе У. Рудава ў пастаноўцы рэжысёра В. Небальсіна была прызнана лепшай жаночай роллю. Артыстка атрымала дыплом і прэмію. У 2007 годзе Ірына Яцук прызнана лепшай артысткай Гродзенскай вобласці. Ёй была ўручана прэмія імя Аляксандра Дубко Гродзенскага аблвыканкама.

У 2019 годзе мастакі Аляксандр Толкач і Таццяна Кедук атрымала грамату і падзяку з сцэнаграфію спектакля «Мымраня» на 19-м Рэспубліканскім конкурсе мастакоў тэатра імя **заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Івана Ушакова**.

За 30 гадоў калектыў тэатра шмат разоў ажыццяўляў узаемагастролі з Мінскім абласным тэатрам з Маладзечна, Гродзенскімі абласным і лялечным тэатрамі, з мінскім Новым драмтэатрам. Наладжвае творчыя стасункі з іншымі тэатрамі Беларусі.

Сёння ў Слонімскім драматычным тэатры працуюць таленавітыя людзі, якія па-сапраўднаму адданыя сцэнічнаму мастацтву, з любоўю адносяцца да сваёй справы, радуюць гледачоў. Жыхары Слоніма іх добра ведаюць, пазнаюць, шчыра вітаюцца. Гэта яны амаль штодня выходзяць на сцэну, каб дарыць нашым людзям добры настрой. Таму хочацца верыць, што тэатр у Слоніме будзе існаваць заўсёды і працягваць тыя тэатральныя традыцыі, якія пачаліся на слонімскай зямлі яшчэ ў XVIII стагоддзі.

# Імгненні сцэнічнага жыцця





**Сцэны са спектакля «Жалезная заслона» (1990).**
**Аўтар п'есы — У. Катэнка. Рэжысёр і мастак — М. Варвашэвіч**







**Сцэны са спектакля «Не забыцца і паспець на сябе хамут адзець» (1991).**
**Аўтар п'есы — Л. Родзевіч. Рэжысёр — В. Багушэвіч. Мастак — С. Кірык**



**Сцэна са спектакля «Сабака з залатым зубам» (1992).**
**Аўтар п'есы — У. Сауліч. Рэжысёр — М. Варвашэвіч. Мастак — С. Кірык**





**Сцэна са спектакля «Прымакі» (1993).**
**Аўтар п'есы — Янка Купала. Рэжысёр — М. Варвашэвіч. Мастак — С. Кірык**



**Сцэны са спектакля «Чарадзейныя суніцы» (1993).**
**Аўтар п'есы — А. Якімовіч. Рэжысёр — С. Бачкоў. Мастак — С. Кірык**





**Сцэны са спектакля «Прымакі» (1993).**
**Аўтар п'есы — Янка Купала. Рэжысёр — М. Варвашэвіч. Мастак — С. Кірык**






**Сцэны са спектакля «Дзень нараджэння ката Леапольда» (1993).**
**Аўтар п’есы — А. Хайт. Рэжысёр — А. Селіванава. Мастак — С. Кірык**



**Сцэна са спектакля «Дзень нараджэння ката Леапольда» (1993).**
**Аўтар п’есы — А. Хайт. Рэжысёр — А. Селіванава. Мастак — С. Кірык**



**Сцэна са спектакля «Мудрагелісты цмок» (1994).**
**Аўтар п’есы і рэжысёр — С. Бачкоў. Мастак — С. Кірык**







**Сцэны са спектакля «Хітрыкі бабы Ягі» (1994).**
**Аўтар п’есы — А. Якімовіч. Рэжысёр — М. Варвашэвіч. Мастак — С. Кірык**







**Сцэны са спектакля «Жаніх па перапісцы» (1994).**
**Аўтар п’есы — А. Федарэнка. Рэжысёр — В. Бандарук. Мастак — В. Шаронава**




**Сцэны са спектакля «Каханне з падманам» (1995).**
**Аўтар п'есы — У. Галубок. Рэжысёр — М. Варвашэвіч. Мастак — Я. Гіль**






**Сцэны са спектакля «Жарты Парыжа» (1995).**
**Аўтар п'есы — К. Манье. Рэжысёр — Т. Дубік. Мастак — Л. Лобач**






**Сцэны са спектакля «Дзед Мароз і лясун» (1995).**
**Аўтар п'есы — Л. Рублеўская. Рэжысёр — М. Варвашэвіч. Мастак — Л. Лобач**



**Сцэна са спектакля «Новыя прыгоды ў Прастаквашыне» (1995).**
**Аўтар п'есы — Э. Успенскі. Рэжысёр — Т. Дубік. Мастак — Л. Лобач**



**Сцэна са спектакля «Дзед Мароз і лясун» (1995).**
**Аўтар п'есы — Л. Рублеўская. Рэжысёр — М. Варвашэвіч. Мастак — Л. Лобач**




**Сцэны са спектакля «Драўляны рыцар» (1996).**
**Аўтар п'есы — С. Кавалёў. Рэжысёр — М. Варвашэвіч. Мастак — Л. Лобач**





Сцэны са спектакля «Жаніцьба Бальзамінава» (1996).
Аўтар п'есы — А. Астроўскі. Рэжысёр — М. Варвашэвіч. Мастак — Л. Лобач





Сцэна са спектакля «Жаніцьба Бальзамінава» (1996).
Аўтар п'есы — А. Астроўскі. Рэжысёр — М. Варвашэвіч. Мастак — Л. Лобач





Сцэны са спектакля «Камедыя» (1997).
Аўтар п'есы — У. Рудаў. Рэжысёр — В. Небальсін. Мастак — Л. Лобач







Сцэны са спектакля «Добры змей» (1997).
Аўтар п'есы — А. Якімовіч. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — Л. Лобач





Сцэны са спектакля «Іван Світаннік» (1998).
Аўтар п'есы — Г. Каржанеўская. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — Т. Салыга



Сцэна са спектакля «Крыштальная сняжынка» (1998).
Аўтар п'есы — В. Небальсін. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — Т. Кедук



Сцэна са спектакля «Жыла-была Сыраежка» (1998).
Аўтар п'есы — В. Зімін. Рэжысёр — В. Небальсін. Мастак — Т. Салыга





Сцэны са спектакля «На бойкім месцы» (1999).
Аўтар п'есы — А. Астроўскі. Рэжысёр — К. Мальковіч. Мастак — Т. Кедук



Сцэна са спектакля «На бойкім месцы» (1999).
Аўтар п'есы — А. Астроўскі. Рэжысёр — К. Мальковіч. Мастак — Т. Кедук



Сцэна са спектакля «Гаспадыня гасцініцы» (1999).
Аўтар п'есы — К. Гальдоні. Рэжысёр — М. Варвашэвіч. Мастак — Т. Кедук



Сцэна са спектакля «Маўглі» (1999).
Аўтар п'есы — А. Якімовіч.
Рэжысёр — С. Наўгародская.
Мастак — Т. Кедук






Сцэны са спектакля «Пакуль яна памірала» (2000).
Аўтар п'есы — Н. Птушкіна. Рэжысёр — В. Бутакоў. Мастак — Л. Лобач




Сцэны са спектакля «Зімовая казка» (2000).
Аўтар п'есы — Г. Лабакін. Рэжысёр — М. Варвашэвіч. Мастак — Т. Кедук



Сцэна са спектакля «Непаразуменне» (2001).
Аўтар п'есы — А. Камю.
Рэжысёр — В. Бутакоў.
Мастак — Л. Лобач




Сцэны са спектакля «Сямейны партрэт з чужым» (2001).
Аўтар п'есы — С. Лабазёраў. Рэжысёр — В. Бутакоў. Мастак — Т. Кедук



Сцэна са спектакля «Сямейны партрэт з чужым» (2001).
Аўтар п'есы — С. Лабазёраў. Рэжысёр — В. Бутакоў. Мастак — Т. Кедук



Сцэна са спектакля «Кот у ботах» (2001).
Аўтары п'есы — С. Пракоф'ева, Г. Сапгір. Рэжысёр — В. Бутакоў. Мастак — Л. Лобач




Сцэны са спектакля «Белая мышка» (2002).
Аўтары п'есы — С. Чыгрын, А. Якімовіч. Рэжысёр — В. Бутакоў. Мастак — А. Толкач





Сцэна са спектакля «Залатое кураня» (2002).
Аўтар п'есы — У. Арлоў. Рэжысёр — В. Бутакоў. Мастак — А. Толкач



Сцэна са спектакля «Персідскі бэз» (2003).
Аўтар п'есы — М. Каляда. Рэжысёр — Д. Нупрэйчык. Мастак — А. Толкач




Сцэны са спектакля «Прымакі» (2002).
Аўтар п'есы — Янка Купала. Рэжысёр — В. Бутакоў. Мастак — Л. Лобач





Сцэны са спектакля «Новы калабок» (2003).
Аўтар п'есы — П. Васючэнка. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — А. Толкач





**Сцэны са спектакля «Мяфа» (2004).**
**Аўтар п'есы — А. Палешчанкова. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — А. Толкач**





**Сцэна са спектакля «Чарадзейны гадзіннік» (2004).**
**Аўтар п'есы — В. Небальсін. Рэжысёр — В. Небальсін. Мастак — А. Толкач**



**Сцэна са спектакля «Камедыя» (2005)**
**Аўтар п'есы — У. Рудаў. Рэжысёр — В. Небальсін. Мастак — А. Толкач**



**Сцэны са спектакля «Зайка-зазнайка» (2005)**
**Аўтар п'есы — С. Міхалкоў. Рэжысёр — А. Прэдка. Мастак — А. Толкач**







**Сцэны са спектакля «Курыца» (2005).**
**Аўтар п'есы — М. Каляда. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — А. Толкач**





**Сцэны са спектакля «Ход канём» (2006).**
**Аўтары п'есы — Б. Рацэр, У. Канстанцінаў. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — А. Толкач**



**Сцэна са спектакля «Ход канём» (2006).**
**Аўтары п'есы — Б. Рацэр, У. Канстанцінаў. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — А. Толкач**



**Сцэна са спектакля «Пакрыўджаныя» (2006).**
**Аўтар п'есы — Л. Родзевіч. Рэжысёр — В. Небальсін. Мастак — А. Толкач**




**Сцэны са спектакля «Пакрыўджаныя» (2006).**
**Аўтар п’есы — Л. Родзевіч. Рэжысёр — В. Небальсін. Мастак — А. Толкач**



**Сцэна са спектакля «Зялёны атрад» (2006).**
**Аўтар п’есы — В. Валжанін. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — А. Толкач**





**Сцэна са спектакля «Свабодны шлюб» (2007)**
**Аўтар п’есы — Ю. Кім. Рэжысёр — В. Голікаў. Мастак — А. Толкач**



**Сцэны са спектакля «Кот Васіль, смятана і мышаня Банцік» (2006).**
**Аўтар п’есы і рэжысёр — В. Небальсін. Мастак — А. Толкач**






**Сцэна са спектакля «Маю жонку клічуць Морыс» (2008).**
**Аўтар п’есы — Р. Шарт. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — А. Толкач**






**Сцэны са спектакля «Стыхійнае бедства» (2009).**
**Аўтар п’есы — Н. Птушкіна. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — А. Толкач**




**Сцэны са спектакля «Не пакідай мяне» (2009).**
**Аўтар п’есы — А. Дудараў. Рэжысёр — Д. Фёдараў. Мастак — А. Толкач**






**Сцэны са спектакля «Дзень нараджэння ката Леапольда» (2009).**
**Аўтар п'есы — А. Хайт. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — А. Толкач**




**Сцэны са спектакля «Кот у ботах» (2010).**
**Аўтары п'есы — С. Пракоф'ева, Г. Сапгір. Рэжысёр — В. Бутакоў. Мастак — Л. Шаўчэнка**




**Сцэны са спектакля «Чарадзейнае люстэрка» (2010).**
**Аўтар п'есы — І. Чаркашын. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — Л. Шаўчэнка**






**Сцэны са спектакля «Сямейны партрэт з чужым» (2010).**
**Аўтар п'есы — С. Лабазёраў. Рэжысёр — В. Бутакоў. Мастак — А. Толкач**



**Сцэна са спектакля «Сямейны партрэт з чужым» (2010).**
**Аўтар п'есы — С. Лабазёраў. Рэжысёр — В. Бутакоў. Мастак — А. Толкач**



**Сцэна са спектакля «Падарункі Дзеда Мароза» (2011).**
**Аўтар п'есы — С. Чыгрын. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — А. Толкач**




**Сцэны са спектакля «Каханне ў стылі барока» (2011).**
**Аўтар п'есы — Я. Стэльмах. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — А. Толкач**







**Сцэны са спектакля «Рыжая казка» (2011).**
**Аўтар п'есы — Л. Навагрудскі. Рэжысёр — В. Міхальчык. Мастак — А. Толкач**



**Сцэна са спектакля «Рыжая казка» (2011).**
**Аўтар п'есы — Л. Навагрудскі.**
**Рэжысёр — В. Міхальчык. Мастак — А. Толкач**







**Сцэны са спектакля «Вось табе і гоцаца!» (2012).**
**Аўтары п'есы — У. Галубок, А. Чужынін. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — А. Толкач**











**Сцэны са спектакля «Паўлінка» (2013).**
**Аўтар п'есы — Янка Купала. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — А. Толкач**






**Сцэны са спектакля «Лясны дэтэктыў, або Хто ўкраў святлафор» (2013).**
**Аўтар п'есы — Н. Сініна. Рэжысёр — В. Міхальчык. Мастак — А. Толкач**





**Сцэны са спектакля «Марская нявеста» (2014).**
**Аўтар п'есы — Ю. Дунаеў. Рэжысёр — В. Міхальчык. Мастак — А. Толкач**




Сцэны са спектакля «Шмат прыгод пад Новы год» (2014).
Аўтар п'есы — Г. Марчук. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — А. Толкач



Сцэна са спектакля «Шмат прыгод пад Новы год» (2014).
Аўтар п'есы — Г. Марчук. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — А. Толкач



Сцэна са спектакля «Чарадзейная лямпа Аладзіна» (2014).
Аўтар п'есы — А. Чупін. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — А. Толкач




Сцэны са спектакля «Тустэп на фоне чамаданаў» (2014).
Аўтар п'есы — Р. Баэр.
Рэжысёр — В. Сявец.
Мастак — А. Толкач






Сцэны са спектакля «Як павука з лугу праганялі» (2015).
Аўтар п'есы — Г. Аўласенка. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — А. Толкач






Сцэны са спектакля «Самазабойца» (2015).
Аўтар п'есы — М. Эрдман.
Рэжысёр — В. Сявец.
Мастак — А. Толкач




**Сцэны са спектакля «Грошы ці каханне» (2015).**
**Аўтары п'есы — Г. Абекасіс, М. Берк'е-Мерынье, П. Барые. Рэжысёр — І. Бурак.**
**Мастак — А. Толкач**



**Сцэна са спектакля «Грошы ці каханне» (2015).**
**Аўтары п'есы — Г. Абекасіс,**
**М. Берк'е-Мерынье, П. Барые. Рэжысёр — І. Бурак.**
**Мастак — А. Толкач**




**Сцэны са спектакля «Бяда ад пяшчотнага сэрца» (2016).**
**Аўтар п'есы — У. Салагуб.**
**Рэжысёр — В. Сявец.**
**Мастак — А. Толкач**






**Сцэны са спектакля «Зачараваная хатка» (2016).**
**Аўтары п'есы — В. Ткачоў, С. Чыгрын. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — А. Толкач**




**Сцэны са спектакля «Шчаўкунчык» (2016).**
**Аўтар п'есы — Т. Уфімцава. Рэжысёр — В. Міхальчык. Мастак — А. Толкач**






**Сцэны са спектакля «Тарас на Парнасе» (2017).**
**Аўтар п'есы — С. Кавалёў.**
**Рэжысёр — В. Сявец.**
**Мастак — А. Толкач**



**Сцэны са спектакля «Мымраня» (2017).**
**Аўтар п’есы — В. Афонін. Рэжысёр — В. Міхальчык. Мастак — А. Толкач**



**Сцэны са спектакля «Падарунак для зорачкі» (2018).**
**Аўтар п’есы — А. Белазёраў. Рэжысёр — В. Міхальчык. Мастак — А. Толкач**




**Сцэны са спектакля «Чырвоная шапачка» (2018).**
**Аўтар п’есы — С. Астраханцаў.**
**Рэжысёр — В. Сявец.**
**Мастак — А. Толкач**









**Сцэны са спектакля «Вяселле дазваляецца...» (2018).**
**Рэжысёр — В. Сявец.**
**Мастак — А. Толкач**







**Сцэны са спектакля «Дом Бернарды Альбы» (2019).**
**Аўтар п’есы — Г. Лорка.**
**Рэжысёр — С. Яскевіч.**
**Мастак — А. Толкач**



Сцэна са спектакля «Нязваны госць» (2019).
Аўтар п'есы — С. Бартохава. Рэжысёр — В. Сявец. Мастак — А. Толкач



Сцэна са спектакля «Бураціна і яго сябры» (2019).
Рэжысёр — С. Яскевіч.
Мастак — А. Толкач





Сцэны са спектакля «Бураціна і яго сябры» (2019).
Рэжысёр — С. Яскевіч. Мастак — А. Толкач



# Калектыў тэатра



Аляксей Ткачоў,
дырэктар



Васіль Сявец,
галоўны рэжысёр



Сяргей Яскевіч,
рэжысёр



Святлана Мароз,
памочнік рэжысёра



Аляксандр Толкач,
мастак-пастаноўшчык



Ларыса Слонава,
загадчыца трупы



Галіна Ерамейчык,
артыстка



Надзея Ільчанка,
артыстка



Багдан Клімаў,
артыст



**Наталля Кліменка,**
**артыстка**



**Ігар Макараў,**
**артыст**



**Вікторыя Міхальчык,**
**артыстка**



**Уладзімір Навумік,**
**артыст**



**Марына Рубель,**
**артыстка**



**Дзіяна Федасевіч,**
**артыстка**



**Наталля Шугай,**
**артыстка**



**Сяргей Яўменаў,**
**артыст**



**Ірына Яцук,**
**артыстка**



# Афішы





















